

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 31 (570) | 14 ЖНІЎНЯ 2002 г.

## ТБМ на міжнародным сімпозіюме

9 – 10 ліпеня 2002 г. у Менску адбыўся міжнародны сімпозіюм "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі". У аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні сімпозіюму ўвайшлі: ЮНЭСКА, Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Белдзяржпедуніверсітэт імя М.Танка, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры, Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Нацыянальная камісія па справах ЮНЭСКА, грамадскія аб'яднанні "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" і "Фонд імя Льва Сапегі".

Як прадстаўнікі аргакмітэту і арганізатары правядзення пасяджэнняў трох "круглых сталоў": "Беларуская мова. Інтарнэт і камптар", "Мова і адукацыя, падручнікі, методыкі і дапаможнікі", "Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу" прадстаўнікі Таварыства мелі чатыры выступы:

1. Старшыня ТБМ – Алег Трусаў (выступ);
2. Першы намеснік старшыні ТБМ – Людміла Дзіцэвіч (выступ);
3. Намеснік старшыні ТБМ –Сяргей Кручкоў (выступ);
4. Намеснік старшыні ТБМ, старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ – Алена Анісім (выступ).

Таксама, падчас наведвання генеральным дырэктарам ЮНЭСКА Каіцірам Мацуўры пасяджэння сімпозіюму 9 ліпеня прадстаўнікамі ТБМ быў перададзены Зварот грамадскіх арганізацыяў да Генеральнай асамблеі ЮНЭСКА з нагоды катастрафічнага становішча з выкарыстаннем беларускай мовы ў электронных сродках масавай інфармацыі Беларусі.

***Зварот грамадскіх арганізацыяў***

***да Генеральнай асамблеі ЮНЭСКО з нагоды катастрафічнага становішча з выкарыстаннем беларускай мовы ў электронных сродках масавай інфармацыі Беларусі***

*Мы, прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў Беларусі, просім Генеральную асамблею ЮНЭСКА звярнуць увагу на катастрафічную сітуацыю, якая склалася ў нашай краіне з лінгвістычнымі правамі беларускамоўнай супольнасці ў сферы электронных сродкаў масавай інфармацыі.*

*У інфармацыйнай прасторы краіны бязмежна ўладараць тэлерадыёкампаніі Расійскай Федэрацыі. Тым часам у сеціве нацыянальных электронных СМІ імкліва скарачаецца час вяшчання на дзяржаўнай беларускай мове. Так, 25 чэрвеня 2002 г. пачаў працаваць другі агульнанацыянальны канал, які ў сваіх праграмах выкарыстоўвае выключна рускую мову. Склалася сітуацыя, калі 97% тэлетрансляцыяў ажыццяўляюцца на рускай мове, у той час, як мова тытульнай нацыі амаль не гучыць у эфіры. Такім чынам ствараюцца ўмовы, калі маладое пакаленне не чуе ў эфіры роднай мовы, і ўжо менш за 30% дзяцей карыстаецца ёю, што вядзе да знікнення беларускай мовы. І гэта адбываецца ў дзяржаве, дзе паводле перапісу насельніцтва 1999 года 73,6% грамадзян назвалі беларускую мову сваёй роднай. Дадамо, што нацыянальныя меншасці нашай краіны, акрамя рускай супольнасці, цалкам пазбаўленыя магчымасці пачуць сваю родную мову ў сеціве нацыянальных электронных сродкаў масавай інфармацыі.*

*Звяртаемся да Генеральнай асамблеі ЮНЭСКА і да міжнароднай супольнасці па дапамогу ў справе абароны і захавання беларускай мовы, а таксама стварэння ў Рэспубліцы Беларусь умоў для свабоднага развіцця і функцыянавання родных моваў усіх нацыянальных меншасцяў нашай краіны. Просім разгледзець лінгвістычную сітуацыю ў Беларусі на пасяджэнні Генеральнай асамблеі ЮНЭСКА.*

***Падпісантамі звароту сталі:***

1. Ад Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны – старшыня ТБМ **Алег Трусаў** і намеснік старшыні ТБМ **Сяргей Кручкоў;**
2. Ад Цэнтра сацыяльных інавацыяў – старшыня Рады дырактароў – **Пашавалава Таццяна;**
3. Ад Праваабарончага цэнтру "Вясна" – старшыня Рады **Алесь Бяляцкі**;
4. Ад Беларускай падарожнай дружыны "Калядннікі" – старшыня Рады **Антаніна Хатэнка;**
5. Ад "Гісторыкі" – прэзідэнт **Ірына Кашталян;**
6. Ад Цэнтра "Супольнасць" – старшыня Рады **Сяргей Мацкевіч**;
7. Ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" – **Анатоль Грыцкевіч**;
8. Ад Беларускай асацыяцыі журналістаў – прэзідэнт **Жана Літвіна**;
9. Ад "Дыярыюша" – старшыня **Ларыса Андросік;**
10. Ад Беларускага хельсінскага камітэту – намеснік старшыні **Гары Паганяйла;**
11. Ад Беларускага ПЭН-цэнтра – віца-прэзідэнт **Уладзімір Арлоў**;
12. Ад "Аб'яднанага шляху" – выканаўчы дырэктар **Аліцыя Шыбіцкая;**
13. Ад Фонду імя Льва Сапегі – старшыня Праўлення **Аляксандр Жучкоў;**
14. Ад Цэнтра па правах чалавека – выканаўчы дырэктар **Сяргей Куркін**;
15. Ад "Беларускай перспектывы" – старшыня **Валянціна Трыгубовіч**;
16. Ад Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў – прэзідэнт **Адам Мальдзіс**;
17. Ад Дзіцячага фонду духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік" – **Марыя Міцкевіч**.

## Бел-чырвона-белыя сцягі над магілай Ларысы Геніюш



11 жніўня ў Зэльве адбылася штогадовая імпрэза ў памяць Ларысы Геніюш, якой 9 жніўня споўнілася 92 гады з дня нараджэння.

У Зэльве сабраліся прадстаўнікі дэмакратычнай грамадскасці з Менска, Горадні, Ліды, Слоніма, Свіслачы, Мастоўскага раёна. Арганізатарам імпрэзы выступаў Юры Качук, старшыня Зэльвенскай арганізацыя КХП БНФ. Пешую вандроўку ў Зэльву здзейснілі сябры Гарадзенскай арганізацыі Маладога фронту.

У 12 гадзін пачалася жалобная імша ў Зэльвенскай царкве. Пасля імшы ўдзельнікі накіраваліся да магілы Вялікай беларускі і яе мужа.

На могілках слова трымалі Алесь Белакоз, загадчык славутага Гудзевіцкага музея, Яўген Петрашэвіч, кампазітар з Горадні, Алесь Чахольскі, адказны сакратар управы КХП БНФ з Менска, Сяргей Мальчык, старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі ГА БНФ "Адраджэньне" і іншыя, вершы чыталі паэты з Зэльвы, Слоніма і Ліды.

Напрыканцы была адгаворана малітва на беларускай мове і прагучаў гімн "Магутны Божа".

І словы выступоўцаў і гімн злёгку прыглушаліся пошумам бел-чырвона-белых сцягоў, здзяйсняючы мару паэткі, "каб над яе магілай, хоць калі-небудзь прашумеў бел-чырвона-белы сцяг".

На невялікім пікніку пасля могілак на беразе буйнейшага ў Беларусі Зэльвенскага вадасховішча прагучалі песні барда Валерыя Жамойціна з Горадні.

28 ліпеня адбылося нацыянальна-патрыятычнае свята на Лідчыне, 11 жніўня - у Зэльве, у лістападзе свята будзе ў Свіслачы і Якушоўцы. У Зэльве была ўзгоднена і праграма святкавання 8 верасня на Гарадзеншчыне.

*Станіслаў Суднік.*

## Выстава ілюстрацый да "Новай зямлі"



**Ілюстрацыі да "Новай зямлі " ў Нясвіжы. На пярэднім плане - мастак В. Шаранговіч.**

17 ліпеня ў Нясвіжы адчынілася Выставачная зала Нацыянальнага гістарычна-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж". Адкрылася зала выставай В. Шаранговіча. Аўтарам былі прадстаўлены ілюстрацыі да паэмы Я. Коласа "Новая зямля". Таленавіты мастак з'яўляецца ўдзельнікам рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаў з 1967 г. Яго работы выстаўляліся ў Польшчы, Італіі, Францыі і іншых краінах свету. Зараз многія творы знаходзяцца ў нацыянальным мастацкім музеі. За ілюстрацыі да кніг творца атрымаў 15 дыпломаў усесаюзных конкурсаў.

У сакавіку 2002 года намаганнямі Беларускага фонду культуры ўбачыла свет паэма Я. Коласа "Новая зямля" на трох мовах. Ілюстраваў яе менавіта Шаранговіч. 91 работа знаходзіцца ў кнізе і ў выставачнай зале г. Нясвіжа. Кожнаму з трыццаці раздзелаў паэмы прысвечана тры абразкі.

*"Для таго, каб правільна ставіцца да паэмы, трэба ўявіць тую эпоху, помнікам і адбіткам якой з'яўляецца "Новая зямля"* – адзначаў у свой час Я. Колас.

Ілюстрацыі да паэмы даюць магчымасць убачыць тую эпоху і сталі добрым падарункам да юбілею Я. Коласа. Здаецца: паэт ганарыўся б тым, што яго твор ілюстраваў такі выдатны мастак, а выстава праходзіла у г. Нясвіжы, месцы якое неаднаразова згадваецца ў паэме, месцы, дзе вучыўся сам пісьменнік...

На майстэрства Шаранговіча прыходзяць паглядзець турысты, студэнты, тутэйшыя жыхары.

Размяшчэннем карцін займаўся К. І. Федарыжкін, а ўсю неабходную інфармацыю ахвотна дае загадчык выставачнай залы І.І. Скаражонак.

*Ірына Секяржыцкая.*

# Збіральнік і даследчык скарбаў народнай мовы

Спаўняецца 75 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага мовазнаўца лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, вядучага навуковага супрацоўніка інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдата філалагічных навук Аляксандра Антонавіча Крывіцкага.

А. Крывіцкі нарадзіўся 15 жніўня 1927 года ў вёсцы Залессе Мсціслаўскага раёна. У 1944 годзе юнаком пайшоў на вайну, заняўшы месца бацькі, якога забрала гэтая вайна ў 1943 годзе. Ваяваў А. Крывіцкі на Другім украінскім фронце, вызваляючы краіны Ўсходняй Еўропы і Аўстрыі. Быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 2-ой ступені, медалямі "За ўзяцце Вены", "За перамогу над Германіяй" і іншымі. Пасля заканчэння вайны ён працягвае служыць у арміі. Дэмабілізаваўшыся ў 1947 годзе, Аляксандр Крывіцкі паступае на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Магілёўскага педагагічнага інстытута.

З першых дзён вучобы ён праяўляе актыўную цікавасць да дыялекталогіі беларускай мовы. Удзельнічае ў дыялекталагічных экспедыцыях пад кіраўніцтвам дацэнта педінстытута, вядомага беларускага мовазнаўца П. Я. Юргілевіча. Займаецца ў дыялекталагічным гуртку, якім кіраваў Юргілевіч, апрацоўвае і сістэматызуе матэрыялы, сабраныя ў экспедыцыях, для ўкладання слоўніка гаворак Магілёўшчыны.

Пасля заканчэння Магілёўскага педінстытута ў 1951 годзе А.Крывіцкі на працягу года працуе ў Карэліцкай сярэдняй школе, але любоў да роднага слова, цяга на навуковых даследаванняў прыводзіць маладога настаўніка беларускай мовы і літаратуры ў Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі, дзе ён працуе з 5 кастрчніка 1952 года па сённяшні дзень. У 1956 – 1960 гадах ён з'яўляецца Вучоным сакратаром гэтага інстытута, з 1960 старшым навуковым супрацоўнікам, у 1976 вядучым навуковым супрацоўнікам, а з 1986 вядучым навуковым супрацоўнікам сектара дыялекталогіі (цяпер – аддзел дыялекталогіі і лінгвістычнай геаграфіі).

У 1958 годзе А. Крывіцкі абараняе кандыдацкую дысертацыю на тэму "Формы асабовых і зваротнага займеннікаў сучаснай беларускай мовы ў іх гісторыі".

Дыялекталогія беларускай мовы і лінгвістычная геаграфія сталі асноўным аб'ектам навуковай працы Аляксандра Антонавіча. Ён з'яўляецца адным з аўтараў такіх фундаментальных прац, як "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы" ( у дзвюх кнігах;), "Нарысы па беларускай дыялекталогіі" (1964), "Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі" (1962) "Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак" (1968 – 1969). У 1971 годзе за комплекс гэтых прац разам з іншымі мовазнаўцамі Аляксандр Антонавіч быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй СССР.

Ён з'яўляецца ініцыятарам стварэння, арганізатарам работы, навуковым рэдактарам і адным з асноўных аўтараў "Тураўскага слоўніка" (тт. 1-5, 1982 – 1987).



А. А. Крывіцкі

У 1993 – 1998 гадах выйшла з друку новая фундаментальная праца беларускіх вучоных-мовазнаўцаў – пяцітомны "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак"; асноўным аўтарам гэтага атласа таксам з'яўляецца А. Крывіцкі.

Ён прымаў удзел таксама ў стварэнні такіх планавых прац аддзела дыялекталогіі і лінгвістычнай геаграфіі інстытута мовазнаўства, як "Мікратапанімія Беларусі. Матэрыялы" (1974), "Лексічныя ландшафты Беларусі. Жжывёльны свет" (1995), "Гаворацъ чарнобыльцы" (1994), "Жывёльны свет. Тэматычны слоўнік" (1999), "Раслінны свет. Тэматычны слоўнік" (2001), у падрыхтоўцы інструкцый па збіранні матэрыялаў для складання "Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы" і "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак".

З 1960-х гадоў Аляксандр Крывіцкі рыхтуе беларускія дыялектныя матэрыялы і складае лінгвістычныя карты па лексіцы і словаўтварэнні для "Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа" (першыя тры тамы атласа з удзелам А. Крывіцкага выйшлі з друку; апошні з іх пад назвай "Агульнаславянскі лінгвістычны атлас. Серыя лексіка-словаўтваральная. Выпуск 3. Раслінны свет" – у Менску ў 2000 годзе). Аляксандр Антонавіч з'яўляецца сябрам Міжнароднай камісіі гэтага атласа. З 1976 года ён кіраўнік Беларускай нацыянальнай групы (з 1992 года – Нацыянальная камісія) "Лінгвістычнага атласа Еўропы" і сябар рэдакцыйнай рады атласа. Па гэтых тэмах ён прымае ўдзел у многіх замежных нарадах і паседжэннях (Югаславія, Чэхаславакія, Германія, а таксама Масква, Кіеў і г.д.)

А.Крывіцкі з'яўляецца арганізатарам даследавання лексікі беларускіх народных гаворак. Па яго ініцыятыве інстытут мовазнаўста НАН Беларусі падрыхтаваў і выдаў лексікаграфічныя зборнікі "З народнага слоўніка" (1975), "Народная лексіка" (1977), "Жывое слова" (1978), "Народная словатворчасць" (1979).

Вучоны, што вельмі важна, не застаецца ў даўгу перад беларускімі настаўнікамі, студэнтамі, школьнікамі і шырокай грамадскасцю краіны, якім ён індывідуальна і ў сааўтарстве прысвяціў шмат сваіх навукова-папулярных прац. Так, у 1961 годзе выйшла з друку брашура А. Крывіцкага "Сучасная беларуская літаратурная мова і народныя гаворкі", у якой паказана, як складвалася беларуская мова ў мінулым, калі і як узніклі мясцовыя говоркі. Як фармавалася беларуская літаратурная мова, якія яе адносіны да гаворак, якія асаблівасці і спецыфіку маюць гаворкі і якая іх групоўка.

У 1964 годзе А. Крывіцкі выдаў кнігу "Наша родная мова" (3-яе выд. Выйшла ў 1973 годзе), у якой у навукова-папулярнай форме расказваецца пра месца беларускай мовы сярод іншых моў. Пра яе фармаванне, узаемаадносіны паміж літаратурнай і дыялектнай мовай, падаецца слоўнік, граматыка, фанетыка беларускай мовы, падкрэсліваецца значэнне мовы не толькі як сродку зносін, але і як вялікага культурнага набытку народа, яго неацэннай спадчыны, ролі пісьменнікаў, што апрацоўваюць і шліфуюць "сырую" мову.

У 1976 годзе выйшла брашура А. Крывіцкага "У рытме з развіццём мовы", прысвечаная стану беларускай моўнай культуры ў розны перыяд нацыянальнай гісторыі, ролі лінгвістыкі ў нацыянальныым моўным развіцці народа. У брашуры асветлены асноўныя набыткі мовазнаўства ў Беларусі ў пасляваенны час у галіне лексікаграфіі, арфаграфіі, граматыкі, фанетыкі, дыялекталогіі, анамастыкі, вывучэнні старабеларускай пісьмовай мовы, развіццё славістыкі ў Беларусі.

У 1979 годзе выйшла з друку кніга "Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР", напісаная А. Крывіцкім у сааўтарстве з прафесарам А. Жураўскім, у якой паказана распрацоўка праблем беларускай лінгвістыкі за 50 гадоў існавання Акадэміі навук Беларусі.

У папулярнай брашуры Аляксандра Крывіцкага "Што такое лінгвагеаграфія" (1986), разлічанай на школьнікаў сярэдняга і старэйшага ўзросту, расказваецца пра лінгвагеаграфічнае вывучэнне моў, даследаванні беларускай, славянскай і сусветнай лінгвагеаграфічнай навукі .

А. Крывіцкі ў сааўтарстве з А. Міхневічам і А. Падлужным напісаў дапаможнік "Беларуская мова для небеларусаў" (1973, 3-яе выд. 1990, пад назвай "Беларуская мова для тых, хто гаворыць па-руску"), для якой падрыхтаваў раздзел "Марфалогія", дзе пазнаёміў рускамоўнага чытача з лексічным складам часцін беларускай мовы, спецыфічна беларускай лексікай, самабытнасцю беларускага слова – і формаўтварэння.

У сааўтарстве з А. Падлужным А. Крывіцкі напісаў тры кнігі: "Фанетыка беларускай мовы" (1984; вучэбны дапаможнік для студэнтаў), "Практыкум па фанетыцы беларускай мовы" (1989) і "Падручнік беларускай мовы для самаадукацыі" (1989) і "Падручнік беларускай мовы для самаадукацыі" (1994). Апошняя кніга ўганаравана Прэміяй Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Пад рубрыкай "Беларуская мова для ўсіх" у газеце "Вячэрні Мінск" на працягу чэрвеня – снежня 1990 года змяшчаліся ўрокі А. Крывіцкага па марфалогіі беларускай мовы. Ён актыўна прапагандуе, папулярызуе нашу мову, яе даследаванне ў перыядычным друку ("Настаўніцкая газета", "Сельская газета", "Голас Радзімы", "Літаратура і мастацтва", "Полымя", "Беларусь, "Народная асвета", "Беларуская думка", "Спадчына", "Маладосць", "Бярозка" і інш.)

Вялікую колькасць артыкулаў напісаў А. Крывіцкі для такіх энцыклапедычных выданняў, як "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" (1969 –1975), "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі" (тт. 1 – 5 ; 1984 – 1987), "Этнаграфія Беларусі" (1989), "Беларуская мова" (1994) і інш. Вучоны з'яўляецца таксама навуковым рэдактарам шматлікіх слоўнікаў і іншых мовазнаўчых прац.

За гады навуковай дзейнасці А. Крывіцкім апублікавана звыш 150 навуковых, навукова-папулярных, метадычных і энцыклапедычных прац агульным аб'ёмам звыш 200 улікова-выдавецкіх аркушаў.

Плённа і актыўна працуе Аляксандр Антонавіч і цяпер. Распрацоўвае планавыя тэмы, якія выконваюцца ў аддзеле дыялекталогіі і лінгвістычнай геаграфіі, працягвае працаваць над "Агульнаславянскім лінгвістычным атласам" і " Лінгвістычным атласам Еўропы". Ім падрыхтаваны праект "Дыялектныя зоны і праблема асновы беларускай літаратурнай мовы" і інш.

Навуковая творчая дзейнасць А. Крывіцкага высока ацэнена. Яму прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР, ён узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, медалямі "За доблесную працу", "Ветэран працы", Францішка Скарыны.

Калегі па працы, сябры і вучні віншуюць паважанага Аляксандра Антонавіча Крывіцкага з 75-гадовыым юбілеем. Жадаюць яму моцнага здароўя. Творчага плёну, ажыццяўлення ўсіх яго жыццёвых і навуковых планаў і задум.

***Мікалай Крыўко,***
***вядучы-навуковы супрацоўнік інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі.***

## ВІНШАВАННЕ

Кіраўніцтва МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" шчыра віншуе **Адама Мальдзіса** з юбілеем, 70-годдзем з дня нараджэння!

Адам Язэпавіч не толькі выдатны беларускі вучоны ў галіне літаратуразнаўства і гісторыі культуры беларусаў, не толькі пісьменнік, публіцыст, але і шырокавядомы грамадскі дзеяч нашай краіны, прызнаны за яе межамі. Шэраг яго манаграфій і шматлікіх навуковых артыкулаў па гісторыі беларускай культуры XVII-XIX стагоддзяў, па беларуска-польскіх і беларуска-літоўскіх літаратурных дачыненнях стала ўвайшлі ва ўжытак навукоўцаў і студэнтаў. Пастаянная арганізацыйная праца сп. Мальдзіса паставіла Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны ў шэраг важнейшых навуковых установ Беларусі. Энцыклапедычнае значэнне мае бібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі", які выйшаў пад кіраўніцтвам Адама Язэпавіча. Часопіс "Кантакты і дыялогі" з яго навуковымі артыкуламі змяшчае біяграфіі прадстаўнікоў беларускага замежжа. Адам Язэпавіч адзін з дзеячоў беларускай інтэлігенцыі, хто яшчэ ў савецкі час пачаў справу Беларускага Адраджэння, якая шмат у чым садзейнічала падрыхтоўцы да абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1991 г.

Яшчэ раз шчыра віншуем Вас, дарагі Адам Язэпавіч, зычым Вам шмат гадоў жыцця, добрага здароўя, плённай творчай працы і новых поспехаў на карысць нашай Бацькаўшчыны.

**Управа МГА**
**"ЗБС "Бацькаўшчына".**

**БМАgroup пры крэатыўнай падтрымцы "ХАРОШЫХ ЛЮДЗЕЙ Ink ." пачала падрыхтоўку да выдання зборніка беларускамоўнага рэпу. Зборнік павінен прыцягнуць увагу беларускіх МС да роднай мовы і без сумневаў, стане сапраўднай падзеяй у айчынным хіп-хопе. Гурты. Што жадаюць патрапіць на зборнік, могуць звяртацца: central-udar@tut. by,ці на пэйджэр 211-00-00 №93569, 2118585 (аб. БМА).**

# Тэхналогія беларускасці ў Беларусі

***По матэрыялах круглага стала "Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу"***

Мова кожнага народа найпершай сваёй функцыяй служыць сродкам пазнання свету і зносін паміж людзьмі. У сучасным інфармацыйным грамадстве менавіта праз родную мову чалавек можа адчуць (або не адчуць) сваю прысутнасць у гэтым свеце, сваю далучанасць да тых ці іншых падзей. З іншага боку, толькі праз родную мову, праз яе паўнакроўнае функцыянаванне чалавек адчувае зацікаўленасць да сваёй асобы з боку канкрэтнага грамадства і Свету ў цэлым. Таму першай задачай нашага круглага стала "Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу" мы лічылі высвятленне таго, наколькі забяспечваюцца патрэбы людзей, якія гавораць па-беларуску, праз выкарыстанне беларускай мовы ў эканамічнай інфармацыйнай прасторы. Па-другое, нам уяўлялася лагічным вызначыць прычыны, якія абумовілі такое становішча. І апошняе, што і як рабіць далей у кірунку пашырэння ўжывання беларускай мовы ў рэкламе і маркетынгу.

Падрыхтоўка да круглага стала вялася даволі доўга і няпроста. Часам складвалася ўражанне, што акрамя Таварыства беларускай мовы ніхто больш не зацікаўлены ў яго правядзенні. Тым не менш, 29 красавіка адбылася, на нашу думку, шчырая адкрытая размова па многіх вызначаных пытаннях. Усе ўдзельнікі канстатавалі нездавальняльнае становішча з ужываннем дзяржаўнай беларускай мовы ў рэкламе і маркетынгу. Гэта асабліва відавочна пры супастаўленні адзінкавых фактаў беларускамоўнай рэкламы з вынікамі перапісу насельніцтва 1999 г. Фактычна носьбіты беларускай мовы пазбаўлены інфармацыі пра тавары і рэчы штодзённага ўжывання і выкарыстання. Такім чынам, яны выводзяцца за межы сусветнай эканамічнай прасторы. Бо адсутнасць беларускай мовы на этыкетках тавараў, рэкламных праспектах, прайс-лістах і г.д. сведчыць пра тое, што гэтыя тавары або паслугі не адрасаваныя тым, хто размаўляе па-беларуску. А гэта ўжо факт дыскрымінацыі.

Было названа некалькі прычын, якія садзейнічалі развіццю такіх негатыўных тэндэнцый. Першая, размова ў дзяржаўных кабінетах вядзецца на адной мове: рускай. Такім чынам у таваравытворцаў і рэкламадаўцаў, якія прыходзяць і працуюць на рынку нашай краіны, ствараецца скажонае ўражанне аб нібыта аднамоўнай сітуацыі ў Беларусі. Па-другое, дзейны Закон аб рэкламе ніяк не адлюстроўвае рэальную моўную сітуацыю ў краіне, не ўлічвае вынікі перапісу 1999 г. і, што самае істотнае, ніяк не рэгламентуе ўжыванне абедзвюх дзяржаўных моў.

Падчас пасяджэння гучала шмат цікавых прапаноў, заўваг і пажаданняў. Напрыклад, візуальнае афармленне сталіцы магло б быць цалкам на беларускай мове – мове тытульнай нацыі. Інфармацыя, у тым ліку рэкламнага характару, павінна вытрымліваць прапорцыю 80:20, дзе 80 абазначае працэнт выкарыстання беларускай мовы, як гэта вынікае з перапісу 1999 г. Адно з пажаданняў - пошук спосабаў эканамічнага стымулявання таваравытворцаў і рэкламадаўцаў, якія ўжываюць беларускую мову.

У падсумаванне вынікаў круглага стала старшыня камітэта па справах ЮНЭСКА ў Беларусі сп. Шчасны прапанаваў Таварыству беларускай мовы сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі ўвайсці ў Палату прадстаўнікоў з ініцыятывай аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у Закон аб рэкламе.

Дазволю сабе сказаць некалькі слоў пра тое, што не задаволіла падчас правядзення круглага стала "Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу".

Першае. На вялікі жаль, на пасяджэнні адсутнічалі прадстаўнікі Міністэрства эканомікі Беларусі. Між тым, яны, магчыма, маглі б дадаць штосьці істотнае са свайго боку да размовы і ў сваю чаргу выслухаць пажаданні іншых зацікаўленых асоб. Другое. Хоць на нашым круглым стале і прысутнічала дэпутат Палаты прадстаўнікоў Н. Цыркун, аднак, яна не імкнулася выслухаць прапановы прысутных, каб пасля агучыць іх у парламенце і ініцыяваць канкрэтныя заканатворчыя працэсы, а, па ўсёй бачнасці, праследавала зусім іншыя меркантыльныя мэты. Прыйшла яна з асабістым тэлеаператарам, які запісваў толькі яе выступленне, дарэчы сказаць, зусім не па тэме круглага стала. Трэцяе. На нашу думку, Белтэлерадыёкампанія, хоць гэта прадугледжвалася, не забяспечыла дастатковую падтрымку ў асвятленні і інфармаванні грамадскасці пра тыя праблемы, якія абмяркоўваліся на шэрагу круглых сталоў падчас падрыхтоўкі да сённяшняга сімпозіюму. Таму ў нас вельмі малая надзея на тое, што пры дадзеных адносінах дзяржаўных структур да грамадскіх ініцыятыў і прапаноў у бліжэйшы час магчымы канкрэтныя крокі да паляпшэння моўнай сітуацыі ў Беларусі.

Тым не менш, звяртаюся да прысутных тут дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў з грамадскім наказам: вынесці на разгляд сесіі пытанне аб нездавальняльным становішчы з ужываннем беларускай мовы ў эканамічнай інфармацыйнай прасторы і ініцыяваць змены ў заканадаўстве ("Закон аб рэкламе", "Закон аб мовах") з тым, каб яны адлюстроўвалі рэальную моўную сітуацыю і рэгламентавалі выкарыстанне дзяржаўнай беларускай мовы на падставе вынікаў перапісу 1999 года.

Міжнародная супольнасць праяўляе сваю зацікаўленасць і заклапочанасць у захаванні ўсіх існых на сённяшні дзень моў. Сведчанне гэтаму – наш сімпозіюм. Настаў час і ўсім суб'ектам дзяржаўнага і недзяржаўнага кіравання і гаспадарання на Беларусі прыслухацца да голасу грамадскасці і зрабіць канкрэтныя крокі па абароне права на інфармацыю носьбітаў дзяржаўнай беларускай мовы. Таварыства беларускай мовы адкрытае для супрацоўніцтва з дзяржаўнымі структурамі, з дэпутацкім корпусам, з усімі зацікаўленымі асобамі дзеля агульнай справы забеспячэння паўнавартаснага функцыянавання мовы тытульнай нацыі ва ўсіх сферах жыцця грамадства.

***Алена Анісім,***
***старшыня Рады Менскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", намеснік старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".***

# Мара чыноўнікаў -- мецць літаратуру без паэтаў

Адным з кірункаў працы Віцебскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" стала прапаганда здабыткаў сучаснай беларускай літаратуры. Асабліва актывізавалася гэтая праца ў час падрыхтоўкі да святкавання 120-х угодкаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Па ініцыятыве суполак таварыства, пры іх удзеле праходзяць сустрэчы з сябрамі абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, якое ўзначальвае сябра таварыства Франц Сіўко.

Абласная і Віцебская гарадская рады таварыства арганізавалі сёлета некалькі сустрэч з вядомымі беларускімі пісьменнікамі. У сакавіку ў Віцебску і Наваполацку з чытачамі сустрэліся Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, Лявон Баршчэўскі. У красавіку са студэнтамі і выкладчыкамі Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава гутарыў, чытаў свае вершы народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

А потым адбылася яго творчая справаздача перад грамадскасцю г. Віцебска.

15 – 19 траўня на Віцебшчыне быў наш зямляк – паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы Генадзь Бураўкін. Абласная рада Таварыства пры падтрымцы абласнога аддзялення фонда імя Л. Сапегі арганізавала яго паездкі і сустрэчы ў Глыбоцкім, Пастаўскім, Браслаўскім, раёнах.

У Глыбокім мы сустрэліся з вучнямі і настаўнікамі СШ № 3, якой 20 год кіруе Віталь Гарановіч, а таксама з работнікамі культуры і чытачамі ў раённым цэнтры культуры. Генадзь Мікалаевіч чытаў вершы з апошніх трох сваіх кніжак: "Выбранае", "Паміж зоркай і свечкай", "Чытаю тайнапіс вачэй...", адказваў на пытанні па сваёй творчасці, біяграфіі, стане беларускай літаратуры, беларускай мовы. Прысутныя, многія з якіх добра ведаюць паэзію Генадзя Бураўкіна, цёпла прымалі паэта, яго вершы, адказы на пытанні, жадалі новых твораў і здароўя.

Пасля выступленняў у Глыбокім мы пераехалі ў Паставы, дзе наступным днём былі запланаваны сустрэчы ў СШ № 1, раённым доме культуры.

Вечарам з перадачы радыё "Свабода" мы даведаліся аб тым, што галоўны рэдактар "Информационного вестника Администрации Президента Республики Беларусь" Эдуард Скобелеў папракаў у "палітычнай адсталасці" В Быкава, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, С. Законнікава і заклікаў новае кіраўніцтва літаратурна-мастацкіх часопісаў не друкаваць іх творы. Пачуўшы такое паведамленне, мы пагаварылі аб магчымай рэакцыі мясцовых і віцебскіх "ідэолагаў" на гэтую "рэкамендацыю". Назаўтра, каля 9 гадзін раніцы, я патэлефанаваў намесніку дырэктара па выхаваўчай рабоце СШ № 1, яшчэ раз узгаднілі з ёю час сустрэчы, якая павінна была адбыцца адразу пасля заняткаў старшакласнікаў.



**Вучні СШ № 3 г. Глыбокае дзякуюць Г. Бураўкіну за сустрэчу**

У гэты дзень мы наведалі маю родную вёску Яцэвічы, пагутарылі там з вяскоўцамі-пенсіянерамі, заглянулі ў кантору колгаса і Шыркоўскую пачатковую школу, пазнаёміліся з Пастаўскай раённай бібліятэкай. А ў прызначаны час былі ў СШ № 1.

Намеснік дырэктара школы, з якою я размаўляў раніцай, сарамліва апусціла вочы і папрасіла нас зайсці да дырэктара школы, у якога, па яе словах, да нас ёсць пытанні.

Кабінет дырэктара школы Травы Паўла Юр'евіча аказаўся зачыненым. І мы пачалі чакаць. Праз пару хвілін да дзвярэй кабінета падышоў 30-ці гадовы мужчына і не прывітаўшыся з намі, адкрыў кабінет. А потым мы пачулі: "Что Вы хотите? Я ничего о встрече с Вами не знаю. Со мной никто не говорил, Встречи не будет!". Убачыўшы абразлівыя паводзіны дырэктара школы да нас, сталых людзей, мы пакінулі кабінет. Генадзь Мікалаевіч выйшаў са словамі "Будзьце здаровы", а я палічыў неабходным папярэдзіць: "Вы - малады чалавек, Вам яшчэ доўга жыць і працаваць, не забывайце аб гэтым!". Каля школы нас абступілі старшакласнікі, здзіўленыя адменай сустрэчы, якую яны чакалі і да якой рыхтаваліся. Завязалася гутарка і старшакласнікі не адпусцілі паэта, пакуль ён не прачытаў ім некалькі сваіх вершаў, не адказаў на пытанні. Усім ахвотным былі дадзены аўтографы, падпісаны кнігі.

Як мы потым даведаліся, каманда аб забароне сустрэчы паступіла з Пастаўскага "белага дома", - так называюць у Паставах райвыканкам, (старшыня райвыканкаму Ванда Фердынандаўна Януковіч, а намеснік па сацыяльных пытаннях – Ала Эдмундаўна Кейзік). Кіраўнікі школ, устаноў культуры атрымалі загад, зрабіць усё, каб ніхто з настаўнікоў і вучняў іншых школ, не прыйшоў на сустрэчу і ў РДК, якая ўсё ж такі адбылася.

Была таксама забаронена сустрэча са старшакласнікамі і ў Браслаўскай гімназіі, але там дырэктар гімназіі Наталля Віктараўна Андрук, не адважыўшыся не выканаць "установку" з Віцебска, ветліва пазнаёміла нас з жыццём гімназіі, запрасіла на сустрэчу з настаўнікамі, дзе і адбылася змястоўная гутарка аб стане беларускай літаратуры, знаёмства з новымі вершамі Генадзя Бураўкіна. У другой палове дня прыхільнікі беларускай мовы сустрэліся з паэтам у РДК.

19 траўня, у нядзелю, утульную залу Віцебскай гарадской бібліятэкі імя Горкага запоўнілі віцябляне і зноў гучала паэтычнае слова.

Адказваючы на адно з пытанняў аб тэматыцы сваёй паэзіі Генадзь Бураўуін зазначыў, што для яго галоўнымі тэмамі творчасці былі і ёсць "Беларусь, прырода, чалавек, каханне".

Зараз абласная рада таварыства рыхтуецца прыняць у вобласці народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

***Старшыня Віцескай абласной рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"***
***І. Навумчык.***

**Народнаму пісьменніку Беларусі ЯНКУ БРЫЛЮ**

**Вельмішаноўны Іван Антонавіч!**

Беларускае грамадскае згуртаванне татар "Зікр уль-Кітаб" шчыра і сардэчна, з пачуццём вялікай павагі віншуе Вас са слаўным 85-годдзем з дня нараджэння.

Вы нарадзіліся на поўдні, у г. Адэсе. Вас люлялі, спявалі калыханкі хвалі Чорнага мора. Нам жа спявалі свае песні хвалі жытнёвага мора. Мы ганарымся тым, што ходзім па адной, роднай нам беларускай зямлі, дыхаем адным паветрам, жывём агульнымі клопатамі, шануем адзін аднаго. Мы бясконца ўдзячны Вам за шчырасць, увагу да спраў нашага Згуртавання. Услед за Вамі мы кажам: "Новы сябар –знаходка рэдкая, а стары – каштоўнасць". Мы ўважаем Вас, як пасланца мудрасці, любові да беларускай зямлі, да яе мовы, якую Вы так магутна ўпрыгожылі сваёй творчасцю.

Жадаем Вам, дарагі Іван Антонавіч, і Вашым родным здароўя, поспехаў у творчасці, спаўнення Вашых планаў і надзей.

**Ад імя Згуртавання "Зікр уль-Кітаб":**

*Абу-Бекір Шабановіч, Ібрагім Канапацкі, Разалія Александровіч, Ісмаіл Александровіч, Айша Александровіч, Алія Усманава, Таццяна Якубоўская, Дзмітры Чымбаевіч, Алі Врановіч, Махамад Махмуд, Мустафа Канапацкі. Мацей Канапацкі, Муса Канапацкі, Саіда Шабановіч, Руслан Багдановіч, Алі Халембек, Лілея Канарская, Аміня Хасеневіч, Рустам Хасеневіч, Алі Шэгідэвіч, Эльміра Базарэвіч, Зінаіда Байрашэўская, Сапар Канапацкі, Адам Асановіч, Аміня Рафаловіч, Алі Александровіч, Алена Ільясевіч, Алі Крыніцкі.*

# Весткі з Севастопаля

Старшыня Севастопальскай суполкі ТБМ Валер Барташ паведаміў нам, што ў чэрвені 2001 года грамадскія аб'яднанні беларусаў, украінцаў ды іншых народаў ладзілі ўрачысты сход з нагоды візіту папы Рымскага Іаана Паўла ІІ на Украіну.



**Сход беларускіх, украінскіх і іншых арганізацый у гонар візіту Папы Рымскага Іаана Паўла ІІ на Украіну. Чэрвень 2001 г. Севастопаль.**

Сябры суполкі прычыніліся да ўсталявання мемарыяльнай дошкі паэту Адаму Міцкевічу на сцяне дома № 21 па вуліцы Каліча ў Балаклаве. Адкрыццё дошкі адбылося 25 лістапада 2001 года і было прымеркаванае да 175-годдзя выхаду ў свет шэдэўра паэзіі "Крымскіх санетаў", напісаных паэтам пад уражаннем наведвання Крыма ў 1825 годзе.



**Прадстаўнікі нацыянальных таварыстваў і творчай інтэлігенцыі на адкрыцці мемарыяльнай дошкі Адаму Міцкевічу ў г. Балаклаве 25.XI.2001 г.**

23 лютага 2002 года ў Севастопалі была адкрыта мемарыяльная дошка вядомаму грамадскаму дзеячу крымска-татарскага народа Наману Чалебіджыхану. Дошка, усталяваная на сцяне былой гарадской турмы, дзе ў 1918 годзе загінуў Норман, была выраблена пры фінансавай падтрымцы мясцовай суполкі ТБМ. На цырыморіі адкрыцця дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны Мустафа Джамілёў выказаў старшыні суполкі Валеру Бартаашу падзяку за аказаную дапамогу.



**Адкрыццё ў г. Севастопалі мемарыяльнай дошкі муфцію мусульман Польшчы, Літвы, Беларусі і Крыма Номану Чалебіджыхану.**

Севастопальская суполка ТБМ імя Францішка Скарыны адзначала 110-я ўгодкі Максіма Багдановіча. 9 снежня 2001 года сябры Таварыства наладзілі вечарыну, а назаўтра арганізавалі паездку ў Ялту, дзе пахаваны паэт. Пра гэта ў рубрыны "Падзея" быў змешчаны артыкул В. Міхайлава "У гонар юбілею паэта" у газеце "Слава Севастопаля" за № 234 2001 года, а таксама публікацыя В. Інгерава "Ты прабач, ты прымі свайго сына..." у газеце "Литературный Крым" № 1-2 за студзень 2002 года, якую мы падаем у перакладзе з рускай мовы.

***"Ты прабач, ты прымі свайго сына...***

*Жылі ж мы, не ведалі гэтых вершаў, не зналі пра лёс Паэта.*

*Не ведалі...*

*Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня" запрасіла нас у госці. Сустрэча была прымеркаваная да 110-х угодкаў паэта і адбылася ў невялічкім утульным офісе Таварыства. У госці да гаспадароў завіталі Яўгенія Мацвееўна Шварц – бібліёграф, чалавек чулай душы, Алег Глебавіч Дыскато - старшыня клуба аматараў гісторыі Севастопаля, літаратары, журналісты – усе сябры Таварыства. Без пафасу і патэтыкі, па задуме арганізатара сустрэчы старшыні Таварыства Валера Барташа, сабраліся на дзень нараджэння. Пра лёс Максіма, так ласкава называюць яго беларусы, распавяла Ганна Малахоўская-Васюніна, намеснік старшыні "Пагоні", гучалі вершы, зразумелыя прысутным без перакладу.*



**Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня" на святкаванні 84-х угодкаў БНР 24.03.2002 г.**

***Маці родная, Маці-Краіна!***
***Не ўсцішыцца гэтакі боль...***
***Ты прабач. Ты прымі свайго сына.***
***За Цябе яму ўмерці дазволь!..***

*Іх з хваляваннем чыталі гаспадары вечарыны Ганна Малахоўская-Васюніна, Ларыса Белік, Кацярына Бас.*

*На дзень народзінаў па добрай завядзёнцы, не прыходзяць з пустымі рукамі. І такім падарункам былі вершы Марыі Віргінскай, Вікторыі Ганчар і ейнага сына Зміцера Хрыстава, якія гучалі на рускай і украінскай мовах. Абыякавых не было.*



**Каля мемарыяльнай дошкі Адаму Міцкевічу ў Балаклаве прадстаўнікі суполак ТБМ з Магілёўскай і Берасцейскай абласцей. Лістапад 2001 г.**

*А наранiцу ўсе зноўку сабраліся разам. На замоўленым аўтобусе, а шлях быў не блізкі, мы накіраваліся на старыя ялцінскія клады, туды, дзе пахаваны паэт. І зноў гучала паэтычнае слова. Над магілкай паэта Валер Барташ усталяваў старажытны герб Беларусі "Пагоня".*



**Каля магілы Максіма Багдановіча 9 снежня 2001 года. Фота Валера Барташа.**

*Бралася на шэрую гадзіну, калі мы разыходзіліся дадому. З намі заставаліся радкі, вершы, думкі Максіма Багдановіча, што запалі ў сэрца. Мы даведаліся пра жыццё паэта, дакрануліся да ягонай творчасці.*

*Віктар Інгераў.*
*Севастоваль."*

Севастопальская суполка ТБМ славіцца сваёй гасціннасцю Мінулым летам нашы землякі цёпла прымалі Людмілу Дзіцэвіч, намесніка саршыні ТБМ, пра што ў свой час паведамлялася праз "Наша слова". А таксама дэлегацыю з Магілёўскай і Берасцейскай вобласці, у складзе якой былі сябры Таварыства беларускай мовы. Усе, хто меў шчасце пабыць у беларусаў Севастопаля шчыра ўдзячныя ім і асабіста старшыні мясцовай суполкі ТБМ Валеру Барташу за прыём і арганізацыю адпачынку.

Матэрыял падрыхтавала да друку

***Ірына Марачкіна,***
***адказны сакратар ТБМ.***

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 12. 08. 2002 г.
Наклад 2400 асобнікаў. Замова № 1531.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.